# НАВІНКІ

20 - 31 сьнежня 1999 №14(22) Кошт свабодны



**Незнаёмец,** які прадставіўся **Ю.Захаранкам,** патэлефанаваў у нашу рэдакцыю.

***Стар.2***

***Каго выбіралі ў Расеі.***

Стар.3

**Каляндар на XXI стагодзьдзе**

**Стар.8**




# Краіна ўваходзіць у навагоднюю кому

На доўгіх тры тыдні краіна пагружаецца ў сомнабулічны транс. Палітыка, эканоміка і сэкс губляюць усе прыярытэты. Іхнае месца займае сінюшна-этылавая сьвістапляска, што будзе цягнуцца ад каталіцкіх калядаў да праваслаўнага Новага году. Пры гэтым усім вядома, што асабістая канфэсіянальная прыналежнасьць ня мае для нашых грамадзянаў аніякага значэньня. Беларуская парацывілізацыйная талерантнасьць абсарбіравала сабантуі каталіцтва і праваслаўя, якія сталі, на жаль, фармальнымі падставамі, каб скінуцца на траіх і пасляць ганца. Сэрца замірае, калі падумаеш, што гэта не ліміт нашай агрэсіўнай верацярпімасьці і талерантнасьці. Інкарпарацыя нашай радзімы ў Беларуска-Расейскі Саюз дае зялёнае сьвятло для эскаляцыі колькасьці і шчыльнасьці застольных сьвятаў. Як належыць партнэру па саюзу, беларускі народ пачне фанатычна паважаць рэлігіі і традыцыі народаў, якія насяляюць неабсяжныя фэдэральныя прасторы. Як вынік: у самым хуткім часе падставаў для бухалава будзе вышэй за крышу – з татарамі бухнем за Рамадан, з Калмыкіі імпартуем імяніны Буды, за якутаў раздавім пляшку на дзень іхнага татэма і г.д. Ці выжывем?..

З НОВЫМ ГОДАМ!!!



Наш падпісны індэкс **63439**

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Тыраж 5000 экз. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@user.unibel.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.
Нумар падпісаны да друку 19.12.1999 г. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы "Чырвоная Зорка" ППП імя Я.Коласа, г. Менск, 1-ы Загарадны зав., 3. Заказ №2051

## Клубнічка

### Порна-кансэрватары

Цяжка знайсьці шлях да папулярнасьці сярод моладзі, асабліва калі ты прытрымліваесься традыцыйнай маралі, ходзіш у царкву і жыць ня можаш бязь індэксу Доў-Джонса.
Вось і маладыя кансэрватары з БНФ у пошуку іміджу шарахаюцца з боку ў бок: то амапаўцаў каўбасяць, то кінуцца міс выбіраць, то чытаюць нарасьпеў біблейскія псальмы. Мы параілі б тым севярынцам не пароць гарачку, а прыглядзецца да досьведу калег-кансэрватараў зь Вялікабрытаніі, якія таксама ўпёрліся ў праблему рэкламы партыі. Аднак яны ня сталі кідаць камянюкі ў прэм'ера Блэра або рабіць калектыўнае абразаньне на Трафальгар-Сквэр. Вырашэньне праблемы папулярнасьці «торы» было вырашана проста: жанчыны-сябры апарату партыі пайшлі ў фота-салён і ў самых пікантна-вычварэнскіх позах засьняліся ў чым маці нарадзіла. На гэтым матэрыяле быў зроблены новы насьценны каляндар на 2000 год, што зараз упрыгожвае сьцены ўсіх кансэрватыўных кантораў Альбіёну. Як і варта было чакаць, зацаніўшы кансэрватыўных цёлак, моладзь касякамі падарвалася запісвацца ў шэрагі правых.
Відавочна, што нашым кансэрватыўным фюрэрам трэба ня гнаць адсябяціну, а імпартаваць з Захаду самыя лепшыя і прагрэсіўныя перадвыбарчыя тэхналёгіі. Вядома, можна іх і творча разьвіваць. Напрыклад, выпусьціць рэкламны буклет «Лепшыя члены Маладога Фронту».

# У нас зазваніў тэлефон...

*Аб'явіўся Юры Захаранка, які даў эксклюзіўнае інтэрвію газэце «Навінкі»*



Недзе а трэцяй ночы ў рэдакцыі газэты *Навінкі* раздаўся званок. На тым канцы дроту нехта гістэрычна крычаў:

– Алё, гэта *Беларуская Дзелавая*?
– Беларуская х...евая, мудак! Гэта рубрыка культуры газэты *Навінкі*!

Вось так недарэчна пачалася нашая размова з адным са знакамітых чалавекаў-невідзімак – Юрыем Захаранкам. У слухаўцы пачуўся да болю пазнавальны голас, троху скажоны тэлефоннай лініяй. Адразу прыгадаліся памятныя прамовы Захаранкі на мітынгах у 1996 годзе: «Грамадзяне! Вашае мерапрыемства несанкцыянаванае...» Так, гэта быў менавіта ён. (Адказы на «кантрольныя» пытаньні былі адэкватнымі: «Якая самая высокая гара ў Беларусі?» – «Гара Сьвятая»).

**Тэлефонам можа валодаць кожны. Але ці кожны зь іх Захаранка ці Ганчар?**

**Ю.З.:** *Навінкі*?.. Е..ць-капаць! Ну хай сабе *Навінкі*! Я – Юры Захаранка! Я хачу зрабіць афіцыйную заяву! У цяперашні момант я знаходжуся ў адной эўрапейскай краіне, дзе мне нічога не пагражае. З майго нумару ў шасьцізоркавым гатэлі прапала Тамара Віньнікава, сотавік і 50 баксаў.

**«Н»: Вы жывы? А аб Вашым зьнікненьні столькі чутак хадзіла. Што ж адбылося на самой справе?**

**Ю.З.:** Мне пакуль што цяжка сказаць. А, ну да! Я памяць страціў. Памятаю толькі, як некалькі дзён знаходзіўся ў непрытомным стане, і мяне некуды вазілі і катавалі, палівалі халоднай вадой. Пасьля гэтых зьверстваў у мяне тры дні балела галава...

**«Н»: Можа, у дачыненьні да Вас ужывалі псыхатропныя сродкі?**

**Ю.З.:** Ага, цалкам магчыма. Прынамсі, Віньнікава па вушы напіхала мяне «Алька-Зэльцэрам». Калі вас цікавіць, чаму я столькі часу маўчаў...

**«Н»: Вы ведаеце хто быў замяшаны ў Вашым зьнікненьні?**

**Ю.З.:** Вядома, я... пакуль што не магу адказаць на гэтае пытаньне.

**«Н»: А можа тады вы ведаеце, хто скраў Ганчара?**

**Ю.З.:** Ну я ня ведаю. Але яго пэўна выкралі. Я бачыў яго ў апошнія гадзіны ў лазьні. Ён прадчуваў свой лёс і нават сам казаў, што хутка яго мусяць выкрасьці. Ён дакладна гэта ведаў.

**«Н»: Дык можна сказаць, што Вам пашанцавала, а яму – не?**

**Ю.З.:** Ну! Калі мы дабраліся да Лёндану, Віньнікава вырашыла застацца са мной, а Ганчару прыйшлося ехаць з Красоўскім. Якое там «пашанцавала»!..

**«Н»: Скажыце, ці хутка Вы зьбіраецеся вярнуцца на Радзіму?**

**Ю.З.:** Пра гэта я пакуль не магу сказаць.

**«Н»: А вы пра што-небудзь можаце сказаць?!**

**Ю.З.:** Я пра гэта скажу пазьней. Я яшчэ буду тэлефанаваць.

**«Н»: Скажыце хоць, дзе Вы зараз?**

**Ю.З.:** Я зараз знаходжуся ў... Ой, картка сканчаецца! Да паба... Тш-ш-ш... Да паба... Тш-ш-ш... Да паба...

Кароткія гудкі абарвалі нашую размову. У галаве зароіліся нейкія шалёныя думкі пра лёс Бацькаўшчыны. Але іх застрамаў чарговы званок тэлефона.

– Алё, гэта *БДГ*? Я – Віктар Ганчар, я зачу зрабіць заяву... ●

**Пётар Водкін**

# Ныркі не жадаеце?

## Як не працягнуць капыты ў сёньняшіх няпростых эканамічных умовах



*Нават малпа за свае патрахі атрымлівае ў тры разы болей за любога дэмакрата*

Гэта ненавязьлівае пытаньне час ад часу рубам устае перад нашымі суайчыньнікамі і падштурхоўвае іх вынаходзіць новыя арыгінальныя крыніцы, як нарубіць капусты. Адзін з такіх безадказных сродкаў, гэта фарцоўка органамі свайго арганізму.

Органы, скажу вам, не кампутары, кошты на якія ўвесь час скачуць, як рэйтынг Прымакова. Попыт на ныркі, вочы, крывяную плазму стабільны і суліць шалёныя капіталы. Калі здаць у нарыхтоўчую кантору пару чалавечых вокавых яблык, бабла хопіць, каб «кіряць» безь перапынку да 2998 году (калі, натуральна, здароўе дазволіць).

Так што ня трэба скуліць на наступствы эканамічных турбуленцыяў. Заўсёды можна ўзяць у буфэце відэлец, акуратна выкалупаць сабе адно вока і выгадна штурхануць яго на чорным рынку.

А вось апазыцыянэрам, заўсёднікам антыўрадавых мардыграсаў, прыйдзецца абламацца наконт гэтай халявы. Справа ў тым, што міліцыя, зь якой рэгулярна маюць справу нашыя «інсургенты», ужывае фізычныя формы прапаганды законапаслухмянага ладу жыцьця. Як правіла, перападае рэбрам, пячонцы і ныркам.

Зразумела, што рэгулярнае заняцьце палітыкай прыводзіць усе органы ў крытычны стан. Дасьледаваньне, якое правялі ўрачы-спэцыялісты на арганізьме алдовага апазыцыянэра Шчукіна, ясна прадэманстравала, што ўнутраныя органы дэмакратаў нікуды да чорту не гадзяцца. Пячонкі алкашоў з хранічным цырозам выглядаюць у параўнаньні як органы навароджаных, а зь пераламаных рэбраў Усявышні мог бы скалаціць цэлы гарэм апазыцыйнаму Адаму. І дарма мыкаюцца па базарах небаракі з ныркамі, пячонкамі-селязёнкамі наперавес, спадзеючыся ўцюхаць сваё анатамічнае фуфло якому-небудзь заежджаму лоху.

Максымум, на што іх можна прыстасаваць, – гэта здаць у мэдычныя навучальныя ўстановы ў якасьці вучэбных узораў для студэнтаў-будучых паталягаанатамаў. Відавочна, што на гэтым шмат пянёндзаў не накалыміш.

Таму, калі Вы хочаце крута падняцца на спэкуляцыі сваімі вантробамі, трымайцеся ад дэмакратыі падалей. Інакш, пакуль усе праворлівыя грамадзяне будуць на заробленыя ад продажы чарговага члена грошы піць, гуляць і баб я..аць, Вам давядзецца ссаць... лапу. Выбірайце больш надзейную крыніцу даходаў ●

**Альфрэд Мэнгель,**
доктар мэдычных навук

# *РНФ: хто спыніць правакатараў?*

Малойчыкі з трыкалёрамі і лёзунгамі «Далоў саюз зь Беларусьсю!», «Ельцына ў Хакасію, Расею ў Азію!», «Чамадан, вакзал, Пружаны», «Жыве Вялікарусь!» атакуюць беларускую амбасаду ў Маскве. Хуліганы скандуюць абразы ў бок фігуры і дзейнасьці беларускага прэзыдэнта, паляць беларускія сьцягі і ўчыняюць несанкцыянаваныя шэсьці на Пакроўцы.

Гэтак правакацыйна паводзяць сябе сябры новага радыкальнага руху Рускі Народны Фронт. Да чаго ж заклікае сваіх паплечнікаў лідэр РНФ нехта Балалайкін Іван Агафонавіч? Вось тэкст передвыбарчай улёткі партыі:

«...Беларусь – зацяты вораг рускага народу. Колькі гадоў наша Бацькаўшчына была пад бульбашоўскай акупацыяй! Яшчэ пасьля гэтак званага ўзьяднаньня, а фактычна – акупацыі Заходняй Беларусьсю тэрыторыі РСФСР, наша Бацькаўшчына страціла сувэрэнітэт і трапіла пад уладу Менскіх дыктатараў. Пачалася палітыка татальнай беларусізацыі і акаталічваньня.
:Пасьля вайны ўся Расея працавала на тое, каб узьняць беларускую сельскую гаспадарку і наладзіць прамысловасьць. Тысячы разанскіх і валагодзкіх хлопцаў загінула ад паднявольнай працы на салігорскіх саляных рудніках і патанула ў Палескіх балотах пры меліярацыі.
...З-за беларускіх імпэрскіх амбіцыяў Расея была ўцягнута ў Афганскую авантуру.
Толькі пасьля распаду СССР мы атрымалі рэальную магчымасьць пабудаваць незалежную дзяржаву. Але ўмяшаўся стаўленік алігархаў з Карла Маркса Б.М.Ельцын (сапраўднае прозьвішча Дунін-Ельцыновіч). Ён гатовы задарма аддаць бульбашам усе нашыя прыродныя рэсурсы і карысныя выкапні Газпрому. У новай імпэрыі рускаму чалавеку адводзіцца роля паслухмянага раба і паядальніка забруджанай радыянукліідамі бульбы з чарнобыльскай зоны. Вось будучыня, якую гатуе нам Ельцын і ягоныя рэнэгаты. Ёсьць толькі адзін спосаб прадухіліць катастрофу – прагаласуй на выбарах за дэпутатаў ад блёку Рускі Народны Фронт!»

Ня трэба думаць, што такі пункт погляду на ўваход Расеі ў склад Рэспублікі Беларусь падзяляе большасьць расейскага грамадзтва. Нават у сапсаванай дэмакратыяй Расеі простыя людзі добра разумеюць усю неабходнасьць інтэграцыі са сваімі белымі братамі на Захадзе.

# Галасуй *за* Віні-Пуха

*Расейскім Пятачкам болей імпануе вобраз Мядзьведзя, чым дэмакратычнага осьліка Іа*

***Хто б мог падумаць, што міністар па надзвычайных сытуацыях акажацца прадстаўніком жывёльнай фаўны***



На пярэдадні выбараў Шайгу-пярэварацень ізноў ператварыўся ў мішку Гамі

Падчас перадвыбарчых разборак за пуцёўкі ў Думу шмат у каго паўстала пытаньне, якая ж муха стукнула ў галаву Шайгу назваць свой блёк «Мядзьведзь». Ні «Суслік», ні «Мураўед», ні, на худы канец, «Янот-паласкун», а неяк няўразьліва і банальна – «Мядзьведзь». *Независимая газета*, пакапаўшыся ў аналах псыхааналізу, нават вывела тэорыю, што з Шайгу адбыўся тыповы выпадак экстрапаляцыі асабістага эга – гэта калі чалавек праектуе на нейкую дурную жывёлу свае асабістыя якасьці. Як аказалася, краснабаі з *Независимой* былі недалёкімі ад ісьціны. Два месяцы таму прэм'ер з гуманітарным грузам за сьпінай трусіў у далёкі дагестанскі кішлак, калі выпадкова сустрэў на вузкай горнай сьцяжыне мядзьведзя-шатуна. Ратуючыся ад людаеда, Шайгу забраўся на самую высокую скалу, але драпежнік пасьпеў цапнуць міністра за ікру. Рана аказалася фатальнай.

Як высьвятлілася пазьней, гэта быў не звычайны Ursus vulgaris, а зачараваны пярэварацень-вахабіт. Гэтую інфэкцыю, відаць, і падхапіў старшыня МЧС.

Цяпер удзень ён калыміць міністрам надзвычайных сытуацыяў, а роўна апоўначы пачынае абрастаць хаерам, поўсьцю і на вачах пераўтвараецца ў самца мядзьведзя «каала». Далей да першых пеўняў патлаты Шайгу займаецца тым, чым займаюцца нармалёвыя патапычы: шукае дупла зь мёдам на маскоўскіх курантах, зьбірае пад блакітнымі ялінкамі ў Александраўскім садзе шышкі і смокча лапу.

Аднак не пасьпеюць гадзіньнікі на Спаскай вежы прабіць 5 гадзінаў раніцы, як наш Віні-Пух ужо ў сваім кабінэце, дзе ўстаўляе пістон нерадзівым чыноўнікам за сытуацыю на чачэна-інгушскіх КПП або мчыць на месца чарговага прарыву вадаправоду.

Калі саслужыўцы па рабоце даведаліся пра начное хобі міністра, яны кінуліся набываць срэбныя капканы і падсоўваць міністру ў якасьці хабару натуральны мёд або, на худы канец, згушчонае малако.

Былі прапановы падстрэліць таёжнага госьця, аддаваць яго штовечар у цырк зьвяроў дзядзечкі Дурава або ўвогуле выпусьціць на ўладаньне прыроды. Аднак прадвінуты чэкіст Пуцін, які ў дзяцінстве сам быў юнатам і лавіў трытонаў, не дазволіў зьдзеквацца над беднай жывёлай і прыручыў лясное чудзішча. У хуткім часе чалавек і жывёла пасябравалі. Прэм'ер нават надрэсыраваў махнатага браць цукар з чалавечых рук, стаяць на задніх лапах і ўзначальваць перадвыбарчыя сьпісы. Зразумела, калі Шайгу-мядзьведзь палез у палітыку, аніякіх пытаньняў з назвай блёку не паўстала. Вось адкуль і ўзяўся «Мядзьведзь» у рэестрах Выбаркаму.

Што да маралі: любі, чытач, братоў нашых меншых – і цябе чакае большасьць у Думе ●

**Міхал Патапаў**

# Супраць усіх




**Блёку «Против всех» – апошняй надзеі простых людзей на шчасьлівае жыцьцё – адмовілі ў выдачы дэпутацкіх мандатаў.**

Маюць рацыю аналітыкі з «Рэзанансу», якія пракамэнтавалі расейскія электаральныя страсьці-мардасьці зьдзекам над сапраўднай дэмакратыяй. Спадарожнікамі сьнежаньскіх выбараў сталі падставы, подкупы, кампрамат, шантаж і, як заканамерны фінал, фальсыфікацыя вынікаў, калі па-за думскім пірагом засталіся відавочныя пераможцы. Гаворка ідзе пра блёк «Против всех», што ў перадвыбарчым сьпісе меў нумар 29.

Даступны стыль прапаганды гэтага перадвыбарчага аб'яднаньня забясьпечыў яму значную папулярнасьць сярод электарату. Кожны пабачыў у гэтай ёмстай назьве тое, што даўно хацеў пачуць ад палітыкаў: «Пайшлі вы ўсе на...»

Па «яшчыку» ва ўсю круціўся рэклямны ролік блёку: першая чацьверка лідэраў «ПВ» ускараскваецца на маўзалей і расьцягвае плякат «Против всех». У эфіры гучыць слоган: «Блёк «Против всех» – кожнаму расіяніну па 1000 баксаў, бабе і вядру гарэлкі задарма».

Выбаршчыкі, якім сапраўды хацелася стабільнай і дастойнай жытухі, ішлі на выбарчыя ўчасткі і ставілі загагуліну насупраць графы «Против всех». У выніку сьпісак «ПВ» адгрэб каля 7% галасоў. Яго лідэры сур'ёзна меркавалі ўзначаліць пару-тройку думскіх камітэтаў і разлагаць знутры дзяржаўную сыстэму п'янствам і разгільдзяйствам. На жаль, зьдзейсьніцца гэтым плянам не давялося. Цэнтарвыбаркамаўская камарыльля нахабна праігнаравала трыюмф «Против всех». Фармальнай зачэпкай чынуш з ЦВК паслужыла тое, што сьцяпуха, на якую быў зроблены славуты транспарант, не была задэкляраванай.

Усё, як у вядомым вершы Маякоўскага: «Адным бублік, а другім дзірка ад бубліка – гэта і ёсьць дэмакратычная рэспубліка» ●

**Вадзім Вішнякоў**

Фэдэральныя сілы працягваюць апэрацыю па ліквідацыі гігіенічнай катастрофы ў Чачэніі.

# Мый *да* дыр, да?

***«Будзе, будзе тэрарыст чыст, чыст, чыст», – сьпявае гэты салдацік падчас зачысткі сяла Шалі***



Праблема кагнітыўнага дэсанасу зьяўляецца як ніколі актуальнай. У абдымках глябалізацыі індывіды, народы і дзяржавы ўсё горш разумеюць адзін аднаго. Прыкладам можна прывесьці інфармайцыйную вайну вакол апошніх падзеяў на Каўказе. Захад разгарнуў дзікую траўлю славянаў, ставячы ў дакор «зачысткі», «санітарны кардон» і г.д. Русь у непанятках: сапраўды што тут дрэннага? У нашай культурнай сэміясфэры зачыстка азначае рэгулярныя гігіенічныя працэдуры. Толькі і ўсяго. Акурат гэта і адбываецца ў суб'екце РФ – Чачэнскай Рэспубліцы Ічкерыя.

Мінздраў Расеі неаднаразова папярэджваў, што Чачэнія, ды й увогуле Каўказ, уяўляе сабой антыгігіенічную барадаўку на чыстым целе матухны-Расеі. Насельніцтва Чачэніі, пазбаўленае вады, сьвятла і цяпла, гадамі ня мылася, не галілася і зьяўляецца рассаднікам такіх хваробаў як пэдыкулёз, часотка і гідрафобія... Асабліва грашаць антысанітарыяй г.зв. вахабіты (ад чач. «ваха» – малочніца, бацыла, таёжны клешч). Таму, як у твар заявіў Пуцін, робячы лазьню свайму кабінэту, у расейцаў няма іншага выхаду, як мачыць баевікоў.

Талмачы-недавукі – выпускнікі МГЛУ (Мічыганскі Губэрнатарскі Лінгвістычны Ўнівэрсытэт) чамусьці пераклалі выраз прэм'ера алегарычна-эзопава як антыгуманітарны наезд на мірных дэхканаў. І сэрца простага янкі сьціскаецца ад прыліву пацыфізму... Што адбываецца ў межах санітарнага кардону? Масавыя забойствы, гвалт, катаваньні? Адумайцеся, спадары! Усё ідзе ў рамках ліквідацыі гуманітарнай катастрофы, да якой прывяла ваяўнічая антысанітарыя вахабітаў.

Спачатку СУ-24 праводзяць каўровыя бамбардзіроўкі, раскідваючы для абагрэву абарыгенаў габэлены берасьцейскага заводу дывановых вырабаў. Наступнай раніцай кішлак абкружаюць байцы мэдсанбату, прапануючы чумазікам выдаць самых вадабаязьненых і блахастых вахабітаў. Потым непасрэдна пачынаецца зачыстка. У населены пункт уступаюць элітныя часткі СОБРу (Санитарная Отдельная Бригада). Саклю за сакляй яны абыходзяць аул і мочаць чачэнцаў шампунем і мылам, чысьцяць ім зубкі, труць сьпінку і стрыгуць пазногці. Падчас гэтай працэдуры ў аксакалаў пад векавым слоем бруду бывае знаходзяць бярданкі яшчэ з часоў збройнага чыну Шаміля. Некаторыя да таго абрасьлі каростай, што бяз рэшты раствараюцца ў цёплай пеннай вадзе.

Сьвежапамочаныя румяныя тубыльцы яшчэ не да канца ўсьвядомілі, што ім прынес Канстытуцыйны Парадак. Можа скласьціся ўражаньне, што яны трапляюць проста ў рай: тут табе і газ, і вада, і цяпло. Аднак ня трэба разьдзімаць з гэтага нейкую праблему: рана ці позна дзікія горцы ўсьвядомяць карысьць асабістай гігіены. Іхныя ўнукі і праўнукі, седзячы на беласьнежным фінскім бідэ, абавязкова ўзгадаюць добрым словам падзякі простага расейскага кантрактніка, які ад душы мачыў калісьці яго дзядулю з бабуляй.

Што ж датычыцца заакіянскіх лапухоў ад лінгвістыкі, мы ад усёй душы раім ім часьцей зазіраць у тлумачальныя слоўнікі жывой расейскай мовы ●

**Карней Чукоўскі**

# 2000

## А пошняя каляда

1.01.99

Дзядуля, адведай шклоўскіх агуркоў. Твой хранічны бадун як рукой здыміць!

Наступным Новым годам абабязкова наведаю краіну гэтага чароўнага напою!

І вось напярэдадні Новага 2000 году Санта-Клаус імчыцца ў далёкую Беларусь

Беларусь

У працоўных сем'ях ужо праваджалі стары год

Тата, дай агу-агурок

Сынок, харош факаць, хадзі самагонкі выпі

– Каго там нясе!
– Пэўна, алімэнты на Асланчыка прынесьлі!
– Баця, не адчыняй, мянты

Вось табе падарунак: чахлы ад клюшак для гольфу. Прачытай-ка мне вершык

Как на рэчке, на плацічке Заічык просіць у Лісічкі, А Лісічка гаварыт: у міня піда баліт!

А-а, спазьніўся да столу. Штрафная первачу!

Ўаў! Дзіўны ў вас кактэйль.

Рыхтаваліся да сустрэчы чарговага году адсідкі і вязьні сумленьня, рыхтуючы да сьвята сухары

Што, мандавошка апазыцыйная, зноў прайграў? Лезь на парашу кукарэкаць!

Теперь питание компьютера можно отключить.

# Кампутарам прыходзіць канец

*Нашы электронныя браты будуць паміраць доўга і мучыцельна*

***Масавы суіцыд электронікі пагражае нават беларусам***

Славутая праблема 2000 можа закрануць любога сярэднестатыстычнага беларуса, прычым незалежна ад палітычных прыхільнасьцяў.

Як заўжды, беларусы чыхаць хацелі б на праблему 2000. І сапраўды, якія могуць быць траблы, калі кампутараў-у нас мала, дый на тых працаваць толкам ня ўмеем. Аднак, як кажуць, пакуль смажаны певень у дупу ня дзёўбне, мы нават не паварушымся. Але можа быць ужо позна.

Ня толькі кампутары і балістычныя ракеты сарве зь месцаў каварная праблема 2000. Высьветлілася, што ў навагоднюю ноч небясьпеку ўяўляць будуць нават самыя звычайныя бытавыя прыборы кшталту самагонных апаратаў, бутэлечных штопараў і нават кухонных нажоў. Абяцаныя жахі будуць пакруцей, чым у пісанках Стывэна Кінга. Само сабой, што а дванаццатай гадзіне ўсе тэлевізары вырубяцца на самым цікавым месцы. На гэтым Варфаламееўская ноч толькі пачнецца. Тым, хто застанецца ў загразшых ліфтах, можна пазайздросьціць – яны будуць у адноснай небясьпецы. Нават такі просты інструмэнт, як штопар, у няўмелых руках можа нарабіць шмат шкоды і нанесьці значныя матэрыяльныя страты.

Цалкам верагодна масавае самаспаленьне чайнікаў і самапраліваньне бутэлек. Выбухі бутэлек з шампанскім нанясуць цяжкія цялесныя пашкоджаньні тым, хто мае неасьцярожнасьць паставіць іх на стол. Звар'яцеўшыя радыёкропкі ўсю ноч будуць трансляваць прэзыдэнцкія віншаваньні з Новым годам. Усё гэта можа скончыцца нават масавымі беспарадкамі ў горадзе.

І гэта толькі пачатак жахаў. Ня варта ўпускаць зь віду тую акалічнасьць, што кампутары й бытавая тэхніка г.зв. «жоўтай» і «чырвонай» зборкі класьці хацела на грыгарыянскі каляндар. Таму пакуль «ай-бі-эм», «філіпсы» ці «мулінэксы» будуць ува ўсю кідаць каней, ваш вузкавокі «панасонік» будзе гарбаціць як заўсёды.

Наступным у чарзе кампутарнай «зачысткі» стаіць «Карвэт-электроніка». Роўненька ў ноч з 12 на 13 студзеня без прад'яўленьня ўльтыматуму ён ператворыць вашую кватэру ў навагодні штурм Грознага.

Сапраўдны ж каляпс пачнецца, калі наступіць год Вогненнага дракона (паводле ўсходняга календару), які ў старажытнай міталёгіі сыбалізуе прыход поўнага капца тэхнічнай цывілізацыі. Уся японская электроншчына ўчыніць сабе такія харакіры, што пазайздросьціць любы самурай-вэтэран 3-яй Квантунскай арміі. Вось тады й запалаюць новыя Хірасімы.

«Што ж рабіць, у такой сытуацыі?» – усклікне чытач. А вось што. Зашыйцеся куды-небудзь падалей ад уключаных электрапрыбораў ды прыхапіце з сабой бутэльку-другую, каб было ня гэтак самотна.

І не забудзьцеся праверыць папярэдне, ці ня ўтрымлівае гарэлка тэхнічнага сьпірту!

**Глеб Дзербанін**

«Прыбраўшы тры нулі, пакупальная здольнасьць рубля павялічваецца ў тысячу разоў!..» П.Пракаповіч

# Дэнамінацыя 2000 году

Напярэдадні Новага году краіну ахапіла сапраўдная гістэрыя. Праблема 2000 году, падаражэньне коштаў, энэргетычны крызыс, дэстабілізацыя ў грамадзтве і, як вынік, галеча й нявыплаты – вось што несла нам яшчэ нядаўна славутая зьмена нулікаў. Але ўсё гэта ў мінулым.

Указ Прэзыдэнта аб дэнамінацыі ставіць крыж на нестабільнасьці і няўпэўненасьці ў заўтрашнім дні. Згодна зь ім, у навагоднюю ноч усе грошы ў нашых кішэнях згубяць па тры нулі: лімоны ператворацца ў штукі, штукі ў рублі, соткі... у соткі.

Апэрацыя па скасаваньні нулёў мае звышнатуральныя містычныя ўласьцівасьці, якія мусяць радыкальным чынам паўплываць на грамадскае жыцьцё. Экспэрты-ўфолягі разганяюць проста фантастычныя казкі. Раніцай 1 студзеня адразу папрыгажэюць дзяўчыны, патаньнее гарэлка, пройдзе бадун і наступіць усеагульны кайф.

Такія звышнатуральныя зьмены, вядома, зрабілі б народ абсалютна і канчаткова шчасьлівым, каб не адна праблема. Ракавы цень зьмены тысячагодзьдзяў, што навіс над сусьветам, абяцае такія катастрофы і ўсяленскія катаклізмы, што ніякія дэнамінацыі ня выратуюць. Тут-та разумныя галовы і скумекалі, як адным махам вывесьці нас на новы вiток спакойнага й заможнага жыцьця.

Трэба дэнамінаваць ні больш ні менш як сам надыходзячы 2000 год! Калі адкінуць ад яго тры нулікі, атрымаецца 2-гі. Чым

**Можна цалкам пакончыць з усімі эканамічнымі і палітычнымі праблемамі, калі разам з дэнамінацыяй грошай мы дэнамінуем Новы год.**




вам ня год? У сьвятле цудадзейных уласьцівасьцяў дэнамінацыі цяжка нават уявіць, як падымецца краіна пасьля такой глябальнай адмены нулёў. І ніякіх табе катаклізмаў.

Цяпер можна ўявіць, як у навагоднюю ноч раптоўна крамы запаўняюцца гарэлкай і чорнай ікрой. На вуліцы выходзяць шчасьлівыя грамадзяне і віншуюць адзін аднаго з Новым 2-ім годам... Хай цяпер апазыцыя патрабуе выбараў прэзыдэнта ў 2001 годзе! У беларускага народу больш не застанецца праблемаў, прынамсі на бліжэйшыя 998 гадоў, да новага мілeніюму.

Вядома ж, можна задацца пытаньнем, ад чаго ж адлічваць гэты самы другі год. На гэта ў нас ёсьць цьвёрды і зразумелы народу адказ. Надыходзячы год зьяўляецца другім годам ад Легалізацыі Газэты *Навінкі*. Кожны, хто скажа, што гэта ня так, проста ня ўмее лічыць

**Павал Глёбус**




## Этна-грАфія

### Пацаны. Хто яны?

Такім пытаньнем задаюцца многія, хто хоць раз меў досьвед стасункаў з прадстаўнікамі гэтай самабытнай папуляцыі, вядомых таксама пад назвай «гопнікі». Гэтай працай мы распачынаем публікацыю этнаграфічных дасьледаваньняў вучонага-самародка Міклухі-Маклая – піянэра ў вобласьці дасьледаваньня пацанскіх плямёнаў. Цыкл «Рода-племянны лад на тэрыторыі Беларусі канца XX ст.» зьяўляецца першым глыбокім аналізам разгляданай праблемы і ахоплівае шырокі пласт культуры і побыту пацаноў, іхных традыцыяў і вераваньняў. Прапануем вашай увазе абрад сьвяткаваньня Новага году пацанамі Цэнтральна-Ўсходняй Заводчыны.

# З Новым годам, у натуры!

Мэта нашай працы – даказаць, што традыцыя сустрэчы Новага году мае старадаўнія карані і на прымітыўным архаічным узроўні яшчэ да сёньня сустракаецца ў некаторых дзікіх плямёнаў Заводчыны.

Абумовім адразу, што размова пойдзе аб абрадах сьвяткаваньня Новага году ў самым сэрцы Аўтазаводу, у раёне вуліц, якія прылягаюць да факторыі «МАЗ». Мікрараёны Чыжоўка і Шабаны, якія фармальна ўваходзяць у склад Заводзкага рэгіёну, маюць свае культурныя і моўныя асаблівасьці, але з прычыны крыважаднасьці абарыгенаў зьяўляюцца маладасьледаванымі. Некалькі этнографаў-аматараў, якія спрабавалі пранікнуць у гэтыя аддаленыя вобласьці,

**Насельніцтва Заводчыны вызначаецца кроткім характарам і традыцыйнай агрэсіўнасьцю як да чужынцаў, так і да супляменьнікаў**



бясьследна зьніклі. Мабыць, прычынай іх зьнікненьня былі антрапалягічныя звычаі мясцовых трыбальных супольнасьцяў. Сьвяткаваньне Новага году ў Заводзкім этнічным раёне пачынаецца звычайна а 1-2 гадзіне 1 студзеня. У гэты час «пацаны» (што на мове прадстаўнікоў дадзенай антрапалягічнай групы азначае «чалавек») пасьля традыцыйных алькагольных узьліяньняў, якія суправаджаюцца праглядам па тэлевізары віншаваньня пляменнага шамана ды сьвяточных рытуальных скокаў, выходзяць з сваіх жытлаў і зьбіраюцца на плошчы ля Палацу культуры МАЗу вакол свайго татэму – навагодняга дрэва.

Татэм мае сакральна-фалічнае значэньне для «пацаноў» і асабліва для самак гэтай папуляцыі.

«Пацаны» звычайна вітаюць адзін аднаго надзвычай разнастайнымі баявымі клічамі: «Малой, давай цыгарэты/бабло/дзеўку!», «Зь якога раёну? Давай выскачым!», «Ну што, малая, па галаве цябе трэснуць, ці так дасі?», «Не раві, жывёла!». Прыведзеныя вышэй фразэалягізмы сьведчаць аб даволі разьвітым рэчавым апараце віда. Пасьля цырымоніі прывітаньня пачынаецца рытуальная бойка, падчас якой прыносяцца крывавыя ахвяры сэзоннаму бажку Дзеду Марозу і ягонай жонцы – багіне зімовага пладародзьдзя Сьнягурцы. Рытуал спыняецца толькі са зьяўленьнем на плошчы Караля Аўтаза. Гэта самы буйны самец у акрузе, які здолеў перамагчы ў бітве ня меней як пяць супляменьнікаў за раз. Уначы Кароль звычайна абходзіць арэал жыхарства сваёй этнічнай групы і памячае твары паддатых падданых сымбалічнымі сінякамі.

Часам на сьвяце зьяўляюцца людзі ў шэрых хламідах – гэта жрацы цёмнага культу МУС. Мусары сьцягваюць п'яных і параненых у падземныя пячоры і патрашаць іхнія кішэні. Усе сабраныя ахвяраваньні ўзлагаюцца на алтар ідала Вялікага Бадуна. Сьвята скончваецца раніцай, калі ўсе ўдзельнікі абраду бадзёра ўзрыгаюць зь сябе злых духаў ●

**Міклуха-Маклай**

# Пэтарды з гексагену

## *Недагляд за падлеткам прыводзіць да трагедыі*

Крывавая трагедыя адбылася ў Маскве напярэдадні Новага году. Дэбільныя дзіцячыя гульні з пэтардамі, і ня менш дэбільная барацьба зь імі з боку ўладаў нарэшце прывялі да доўгачаканай жахлівай разьвязкі.

Пяцікласьнік Вова заўсёды слухаў маму, а яшчэ вельмі любіў гуляць зь сябрамі і падрываць пэтарды. Нажаль, гэтыя забаўныя грымучкі ўсё цяжэй было знайсьці ў шапіках. Аднойчы, забаўляючыся ў лесе ля Маскоўскай кальцавой, дзеці натрапілі на вялізны мяшок. «Гэта дзед Мароз пакінуў!» – радасна запішчалі сябры, адчыняючы пакунак. У мяшку абнаружылася нейкая схема зь незразумелымі надпісамі і сьветла-шэрая салодкая сумесь, падобная да цукру. Разумны Вовачка першы дагнаў, што з «падарунку» можна намайстраваць пэтардаў. І праца закіпела.

Праз гадзіну задаволеныя дзеці зьявіліся ў горадзе, цягнучы за сабой мяшок з намайстраванымі цацкамі. Першую пэтарду вырашылі праверыць каля бліжэйшага камэрцыйнага кіёску. «Пэтарды ёсьць?» – «Няма!» – «А ў нас ёсьць!» Гучны выбух у дым разьнёс пяць «камкоў». За сэкунды да таго, як ахрэнеўшая бандыцкая «крыша» прыйшла ў сябе, хлопчыкі пасьпелі схавацца ў дварах. «Крута!» – узбуджана загаманілі падлеткі, аддышаўшыся праз два кварталы. Наступную пэтарду вырашылі выпрабаваць на драндулеце старога Міхеіча. Але раптам побач намаляваўся ўчастковы. Каб не прыцягваць залішняе ўвагі, хлопцы затравілі анэкдот і дасталі цыгарэты. Гэта стала іх летальнай памылкай.



*«Хлопчык у лесе знайшоў гексаген. Выбух – няма ні мазгоў, ні кален...»*

Выбуховая хваля вынесла вокны ва ўсіх Хімках, а скрываўленыя шматкі маладых целаў разьмятала на добрыя кілямэтры так, што потым нават сабакі з ФСБ ня здолелі разабраць, дзе тут Вовачка, дзе ўчастковы, а дзе драндулет старога Міхеіча.

Як здагадаўся кемлівы чытач, «падарунак» дзеда Мароза насамрэч уяўляў сабой трывіяльны мех з гексагенам, які пакінулі перад адступленьнем з Масквы чачэнскія інсургенты. Не зразумець усёй небясьпекі знойдзенага сюрпрызу маглі толькі поўныя адмарозкі, якія не цікавяцца нічым, акрамя дзіцячых казак і пэтардаў. Але васямнаццаць сьвежых магіл на Навадзевічых могілках паслужаць добрым урокам для легкадумных аматараў хлапушак ●

**Іван Дынамітаў**

# Расчляніць і выкінуць

## Менавіта да такой формулы дапетрылі дзеўкі з Spice Girls, каб разабрацца са сваёй былой сяброўкай



Раскроеная сваімі зайздросьніцамі на сотню кавалкаў, Сэксі здолела выкараскацца з магілы

У 70-х марай сярэднестатыстычнага беларускага падлетка было ўсталяваньне камунізму ва ўсім сьвеце, у 80-х марай становіцца бутэлька «Пэпсі-колы», а ў 90-х кожны падлетак марыць пра ноч хаця б з адной са «Спайс гёрлаў».

Дэградацыю сьветлых маладзёвых ідэалаў немагчыма не заўважыць, але ж не аб гэтым пойдзе гутарка. Бацькі, зьвярніце пільную ўвагу на тыя «каштоўнасьці», якімі пічкаюць нашых дзяцей натаўскія тэле- і радыёпраграмы. Сада-мазахісцкае шоў Эліса Купэра, танкі гурта KISS і валасатыя грудзі Томаса Андэрса – гэта ўсё тэатар самадзейнасьці ў параўнаньні з крыважэрнымі дзяўчаткамі са SPICE GIRLS.

Усё было спакойна, пакуль яны былі разам і ніводная зь іх не выдзялялася з гурта. Ніхто акрамя футбольных фанатаў не злаваў, дый тыя проста прасілі не закрываць сваімі грудзямі тэлекамэраў падчас трансляцыі футбольных матчаў.

І вось здарылася. Толькі дзяўчаткі рассварыліся – і пачалося. Варта было толькі самай смазлівай гірле Сэксі пачаць сольную кар'еру і рубіць на гэтым нехалерныя бабкі, як астатнія спайсы згрупаваліся ў блёк «Сэксі – сука й бяздарнасьць» і разам паспрабавалі вынішчыць былую сяброўку. Тормаз «кадылаку», які перастае працаваць; мікрафон, які забойча іскрыцца токам; шампунь зь сернай кіслатой – усё гэта нейкім цудоўным чынам мінавала Сэксі. Тады ашалелыя ад зайздрасьці гірлы вырашылі паводле старога бандыцкага звычаю дачакацца яе ля параднага і «папісаць гэтую падлу», як сьпявалі яны некалі ў сваім шлягеры.

Адна супраць чатырох... Нават калі б на месцы Сэксі была мужная гераіня нашай эстрады Алеся, то й яна ня мела б ні малейшага шансу. Падпільнаваўшы сваю ахвяру й заламіўшы ёй рукі, чатыры вядзьмаркі-маньячкі пачалі пілаваць Сэксі ад пупка да патыліцы электрапілкай для пазногцяў. Крык, ад якога шкло вылятала з вокнаў, стаяў над



кварталам на працягу пятнаццаці хвілінаў, але ж ніхто з суседзяў і не падумаў вызваць паліцыю. Капіталістычнае грамадзтва глухое да чужых праблемаў.

Толькі зранку Сэксі (дакладней, тое, што ад яе засталося) знайшоў дворнік. Які і выклікаў «хуткую». Дваццаць шэсьць гадзінаў цягнулася складаная апэрацыя – Сэксі выжыла!

Аднак тое, што атрымалася ў выніку з сэксоўнай цёлкай, цяжка назваць удалым ходам хірурга. Вядомы культуроляг Умбэрта Эка лічыць, што зь імглістага Альбіёну на Эўропу насоўваецца жахлівая мода, якую ён дасканала апісвае ў сваёй працы «Франкенштэйн. Ня бойся мама, сёньня гэта ў модзе». А пакуль Сэксі разам зь сябрамі зьбірае грошы на новую апэрацыю●

Паводле матэрыялаў часопісу *Viz*

# Люся ў нябёсах

## *ЛСД як рухальная сіла беларускай палітыкі*



Пaштовыя маркі. Хто з нас у дзяцінстве не зьбіраў гэтыя каляровыя кавалачкі паперы? Але ж хто з нас мог падумаць, што, поўныя недаверу да сваіх малодшых, мы будзем лізаць кожны значак у іхных альбомах, каб праверыць: наркотык гэта ці не, выклікае гэта ў нас галюцынацыі ці проста запор.

Палітычная барацьба, якая апошнім часам пранікла ва ўсе сфэры нашага жыцьця, не абышла і наркабізнэс. Раскол сярод апазыцыянэраў у час адсутнасьці прзыдэнта Шарэцкага падштурхнула ягоных прыхільнікаў да ідэі навязаньня ўстойлівай сувязі са сваім бясьсьменным правадыром. Пакуль частка старэйшых «сьвядомых» апазыцыянэраў купляла за грошы Сораса факсавыя апараты, малодшыя таварышы, дзербануўшы траўкі ды раскатаўшы пару дарожак кокі, прабіліся на ідэю: а чаму нам не зьвязацца з бацькам Сямёнам на прамую, праз астрал?

Аблізаўшы марку з патрэбным пэрсанажам палітычнай сцэны можна навязаць зь ім кантакт на псыхадэлічным узроўні

І панеслася. Ужо праз тыдзень «пад гадзіньнікам» на МакДону можна было свабодна набыць маркі ЛСД з выявай Сямёна Шарэцкага. Сталыя спажыўцы кіслаты, не пасьпеўшы да канца адысьці ад «сустрэчы» з гуру беларускага народу, ішлі на апазыцыйныя мітынгі. На дыскатэках «Маладога Фронту» заўзята хадзілі чуткі пра Шарэцкага. Неўзабаве можна было пачуць: «Ты што, ён учора быў тут! Так адрываўся пад PRODIGY, потым падыходзіць да мяне і пытае: «Слухай, малы, дай марку закінуцца, і сам закінься, бо адпусьціць».

Але ж самае цікавае пачалося, калі ў справу ўвайшлі прыхільнікі другога (дакладней, першага) прэзыдэнта. З самага пачатку было заплянавана, што спажыўцамі марак будуць моладзь і калгасьнікі, якім на мінулыя Дажынкі не дасталося тэлевізараў. Не параіўшыся з прэзыдэнтам, дылеры-патрыёты пачалі распаўсюджваць маркі сярод электарату. Прыход пачаўся, калі простыя тружанікі сяла, трактарысты й даяркі пачалі клеіць маркі на капэрты.

Сьціплы і палахлівы каваль Яська Бык, аблізаўшы марку, каб адправіць ліст сваёй каханай, пайшоў за «прэзыдэнтам» біць мясцовую групоўку БНФ-аўцаў. 56 гадовая даярка Зіна Курлова даводзіла, што замест паштальёна да яе ў хату завітаў Сам і правёў у ейным ложку цэлую ноч. Легенда аб прэзыдэнце, аб'езьдзіўшым Дрыбінскі раён аўтастопам, можна пачуць у кожнай вёсцы гэтага раёну. Моладзь на нейкай дыскатэцы біла прэзыдэнта, які па іхных словах забраўся на месца ды-джэя (сам ды-джэй, якога мы наведалі ў рэанімацыі, казаў што ніякага прэзыдэнта там і блізка ня бачыў).

Невядома, чым бы ўсё гэта скончылася, каб не адданая праца нашай міліцыі, якая падчас аблавы на наркадылераў зьвінціла цэлую тусоўку філятэлістаў, пераблытаўшы іх з прадаўцамі ЛСД. У сувязі з тым, што на вуліцах зьявіліся маркі з выявамі Статкевіча, Вячоркі ды Лябедзькі, міністар унутраных справаў просіць усіх філятэлістаў паставіць свае калекцыі на ўлік у пастарунках міліцыі па месцы жыхарства да 1.01.2000 году●

Л. Эсдэцкі

## *НастрадАмус*

### Што рыхтуе Міленіюм?




2040 – працягваецца трыюмф прадстаўнікоў дэмакратыі ў Расеі. На выбарах 99% набірае блёк дэмакратаў і беспартыйных. Антытэрарыстычная апэрацыя на Каўказе зноў увайшла ў сваю завяршальную стадыю.

2006 – праблема патэнцыі вырашаная. Нават пасьля сьмерці мужа ўдовы не адчуваць сябе самотнымі.





2021 – прарыў у генэтыцы. Харчовая праграма 1999 нарэшце выкананая на 400% апошнім у краіне калгасьнікам. На адной бульбіне студэнты жыруюць цэлы год.

2013 – працягваецца працэс славянскай інтэграцыі. Лукашэнка, Ельцын і Грамазека падпісваюць дагавор аб стварэньні галактычнага Беларуска-Расейскага саюзу.





2033 – парніковы эфэкт выклікаў глябальнае пацяпленьне клімата. Традыцыйны раўбіцкі марафон праходзіць пры тэмпэратуры 45° па Фарэнгейту. Кошты на сьнег растуць, а сьпякота не спадае.

2037 – павальная кампутарызацыя ўсіх сфэраў грамадзкага жыцьця. Курсант МУС ахоўвае файл «Прэзыдэнт РБ» ад апазыцыйных вірусаў. Канфэрэнцыя дэмакратаў у Інтэрнэце была заглючаная хакерамі Камітэту Электроннай Бясьпекі.



# Гастролі Алсу ў Менску выклікалі фурор сярод вэтэранскай тусоўкі

# Алсу хачу!

У пошуках правакацыйнага сэксуальнага іміджу зоркі попсцэны падчас забываюць, чаго гэта можа ім каштаваць. Падчас гастроляў Алсу ў Менску ля клюбу «Рэактар» сабраўся агромны натоўп аматараў новай Лаліты. Уражвала, што пераважная большасьць зь іх былі пэнсіянэры і вэтэраны ВАВ, якія намагаліся прарвацца на канцэрт без чаргі і прайсьці па ільготных білетах. Такую зногсшыбальную папулярнасьць заслужанай татарскай пясьняркі сярод людзей сталага веку можна патлумачыць. У якасьці тыповага прыкладу публікуем запіску, якую перадалі Алсу праз ахову падчас выступу сьпявачкі ў «Рэактары».

«Глыбокашаноўная Алсу, да Вас зьвяртаецца адзін пэнсіянэр з Старых Дарог. Вельмі цікаўлюся Вашай творчасьцю, і на тое ёсьць сур'ёзныя падставы. Усё пачалося, калі аднойчы ў перадачы «Размова па сутнасьці» я пачуў Ваш залаты шлягер пра Лаліту, матыў і словы якога адразу запалі мне ў душу. Я вэтэран, інвалід працы II-й групы і многае пабачыў у жыцьці, але Вы, Алсу, гэтак здорава ўжыліся ў ролю маладой пісюхі Лаліты, гэтак шчыра абхаджвалі гэтага хрыча-актора, што, паверце, па маіх сівых вусах градам пракацілася скупая мужчынская сьляза. Дзякуючы вам, я ўпершыню з фінскай вайны (дзе я атрымаў шматлікія абмаражэньні ніжняй дыяфрагмы і мэдаль за адвагу) зноў адчуў сябе мужыком. Ува мне прачнуліся схаваныя сілы, а ў маіх галіфэ і ў душы нешта заварушылася. Спачатку я нават пачырванеў, але сэрцу не прыкажаш, як казала мая ўнучка, што зьехала ў Магадан зь нейкім крымінальнікам.

Я доўга баяўся Вам прызнацца. Баяўся, што мая старая мяне заб'е. Суседзі і так гавораць пра мяне: «Зусім з глудзу зьехаў, як той Чыка Ціла: усё зь нейкім Набокавым носіцца, надта вучоны». Вы, вядома, разумееце мае апасеньні. Аднак пазьней, падчас кропельніцы, наша фэльчарка казала, што ў пляне сэксу Вы аддаеце перавагу не плюгавым байструкам, а мужным старцам, перш за ўсё тым, якія пакутуюць на хваробу Альцгеймэра, і вэтэранам Халхін-Голу (у мяне якраз ёсьць пасьведчаньне). І тут я зразумеў, што мы створаныя адзін для аднога.

Алсу, Вы можаце быць упэўненай, што я і ёсьць той самы мужчына, герой Вашага раману. Мне прыблізна 74 гады, але выглядаю значна больш дарослым. Мужык я амаль цьвярозы, гаспадарлівы. Ямо ўсё сваё. Пэнсія ў мяне малая, але ж хіба гэта для нас, палюбоўнікаў, праблема? Як казаў адзін разумны чалавек, будзем жыць як два галубкі, душа ў душу.

Як толькі даведаўся, што прыязджаеш у Менск, вырашыў для сябе цьвёрда – або зараз пад вянец, або ніколі. На жаль, квіткі ў гэты «Рэактар» каштуюць, як грузавік навозу ўвесну. Заставалася адно – забіць парсюка, але старая, падла, ня дала. Уся надзея на цябе!

Зараз стаю каля ўваходу і чакаю, калі ты мяне правядзеш у залю. Выходзь хутчэй! Ты мяне пазнаеш па кветках і чырвоных лампасах. Я табе гасьцінцу прынес. Пачастуемся.

Алсу, ты – мая! Хадзі ж да мяне, мая маленькая татарская курачка. Я ўвесь палаю!

Твой Гумбэрт – Хведар Уладзіленавіч Ялдаковіч».

**Ад рэдакцыі**: меркаваньні чэснай журналісцкай этыкі і ўстойлівыя маральныя прынцыпы не дазваляюць нам распавесьці, што адбылося далей. Скажам толькі, што Х.У.Ялдаковіч знайшоў сваё шчасьце ●

**Валеры Набокаў**



*Вось з такімі цацкамі забаўляюцца старыя (у поўным сэнсе гэтага слова) аматары творчасьці Алсу.*

## ІлюзіЁн

### Фокус-покус для чачэнцаў

Новыя вяршыні фокуснай творчасьці пакарыліся Дэвіду Капэрфілду падчас ягонага апошняга турнэ ў Расею. Акрамя таго, што на сцэне Алімпійскага палацу была ўпоперак расьпілаваная жанчына і паказаны фокус з напёрсткамі, заакіянскі Кіо адкалоў штуку ў сваім тадыцыйным жанры – магічнае зьнікненьне. Вы не паверыце!!!

У блякадным Грозным невядома адкуль пасярод начы намалявалася брыгада расейскай бранятэхнікі. Душманьнё афігела ад нахабства аб'яднанай групоўкі і з гіканьнем памчалася на ворага. Яны білі, мачылі, стралялі, рубілі, рэзалі, узрывалі, патрашылі расейскіх кантрактнікаў. Усяго, зь іхных словаў, у начной сшыбцы было забіта каля 100 фэдэралаў, ня лічачы БМП. Прыкол у тым, што паводле дадзеных расейскіх СМі наш экспэдыцыйны корпус не згубіў за ноч ніводнага чалавека і, увогуле, Грозны не штурмаваў і штурмаваць не зьбіраецца. Вось гэта трюк. Нашыя факіры кшталту Акапяна, які толькі і можа, што дурыць даверлівага Сьцяпашку ў «Спакойнай ночы», і блізка не былі.

### Гной для палітыкаў

Выхадка вядомага мастака Аляксандра Пушкіна, які 4 ліпеня перакуліў тачку з хаўном перад Рэзыдэнцыяй Прэзыдэнта, адразу ўвайшла ў арсэнал палітычных тэхналёгіяў у суседняй Расеі. Як інфармуе інтэрфакс, калі дэпутаты і супрацоўнікі калінінградзкай абласной Думы прыйшлі 16.12.99 на працу, то знайшлі каля будынку каля трох тонаў натуральнага гною. Усё гэта адбылося за тры гадзіны да пачатку пікета партыі Аграпрамсаюзу. Камэнтуючы гэты інцыдэнт, спікер Думы Валеры Ўсьцюгоў паабяцаў правесьці «аналіз» гною з мэтай вызначыць, адкуль ён мог быць прывезены. Як вядома, Пушкін атрымаў за адну тачку дзярма два гады ўмоўна. Колькі, цікава, дадуць актывістам Аграпрамсаюзу?

### Крыж на полюсе

Замежныя імпэрыялісты праспалі ў шапку новую вылазку славянскай расы супраць Захаду, у параўнаньні зь якой скачок дэсанта на Прышціну – дзіцячыя гульні. Як інфармуюць РИА «Новости»: айцец Віктар з навасібірскай царквы Пакрова Сьвятой Багародзіцы мае намер 1 студзеня 2000 году адправіцца ў складзе парашутнай экспэдыцыі ў Антарктыду на Паўднёвы Полюс. Сьвятар-парашутыст зьбіраецца зрабіць скачок у самую паўднёвую кропку Зямлі, каб вадрузіць там праваслаўны крыж і адслужыць малебен за расейска-беларускі саюз. Як вядома, усе каляніяльныя захопы пачыналіся з усталяваньня крыжа. Таму бліжэйшым часам удар па аднаполюсным сьвеце будзе нанесены на полюсе!

# У чым пайсьці на карнавал?

### «Патрыёт»



1. Пінжак «з карманамі».
2. Значак у чырвона-зялёных танах.
3. Сотавік (у больш лахаватых – пэйджэр) для неадкладнай сувязі з райкамам.
4. Шузы ад «Белвесту».

Носіць усё выключна айчыннай вытворчасьці. Палітычна ўстойлівы.

### «Адмарозак»



1. Куртка цёмная па ціпу «пілот».
2. Насоўка для твару.
3. Апазнавальныя знакі. (значкі, павязкі, нашыўкі і інш.).
4. Дрэўка ад сьцяжка.
5. Берцы старэйшага брата-омана.

Дрэнна разумее па-расейску. Характар спакойны, міралюбны

### «Міс МФ»



1. Даўгія валасы «а-ля блонд», у горшым выпадку парык.
2. Чуйная нагата.
3. Бікіні колераў нацыянальнага сьцягу.
4. Стройныя паголеныя ногі.

Цалкам аддаецца справе Адраджэньня. Паводзіць сябе какетліва, сымбалізуючы сабой незалежную Беларусь.

### «Валютчык»



1. Скуранка турэцкай вытворчасьці.
2. Шапка з пумпонам за 20 баксаў.
3. Пачак рэлігійнай літаратуры.
4. Боты як боты.

Беспрацоўны, але па інэрцыі шукае працу. Паважае Крымінальны кодэкс. Спрыяе стабільнаму курсу беларускага рубля.

### «Бамжыха»



1. Кейс з канвэртаванай валютай.
2. Манто з гуманітаркі.
3. Бандана з чарапамі, анархіямі, канабісам ці інш.
4. Унівэрсальны фінскі нож.

Неадэкватная рэакцыя на канкурэнтаў. Аддае перавагу сілавым мэтадам узьдзеяньня. Лічыць, што кліент заўжды мае рацыю.

### «Псіх»



1. Напалеонаўская трохвуголка.
2. Беларуская нацыянальная кашуля.
3. «Марцінсы» за 120 баксаў па курсу НБ.

Рахманы, талерантны, сьціплы. Ціха памешаны на адзінстве з санітарным пэрсаналам. Кожны дзень абяцае аддаць свой абед таварышам па палаце. Хочаш пра гэта паразмаўляць?

НАВІНКІ

# Каляндар на XXI стагодзьдзе

*Мы ствараем вечныя каштоўнасьці. Для Вас, Вашых дзяцей, унукаў і праўнукаў мы прапануем каляндар на наступнае стагодзьдзе.*

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2001 | 2011 | 2021 | 2031 | 2041 | 2051 | 2061 | 2071 | 2081 | 2091 |
| 2002 | 2012 | 2022 | 2032 | 2042 | 2052 | 2062 | 2072 | 2082 | 2092 |
| 2003 | 2013 | 2023 | 2033 | 2043 | 2053 | 2063 | 2073 | 2083 | 2093 |
| 2004 | 2014 | 2024 | 2034 | 2044 | 2054 | 2064 | 2074 | 2084 | 2094 |
| 2005 | 2015 | 2025 | 2035 | 2045 | 2055 | 2065 | 2075 | 2085 | 2095 |
| 2006 | 2016 | 2026 | 2036 | 2046 | 2056 | 2066 | 2076 | 2086 | 2096 |
| 2007 | 2017 | 2027 | 2037 | 2047 | 2057 | 2067 | 2077 | 2087 | 2097 |
| 2008 | 2018 | 2028 | 2038 | 2048 | 2058 | 2068 | 2078 | 2088 | 2098 |
| 2009 | 2019 | 2029 | 2039 | 2049 | 2059 | 2069 | 2079 | 2089 | 2099 |
| 2010 | 2020 | 2030 | 2040 | 2050 | 2060 | 2070 | 2080 | 2090 | 2100 |

*Чырвоным колерам выдзеленыя сьвяточныя і выходныя гады

## Знамянальныя даты і сьвяты

**2001** – двухсотгодзьдзе з пачатку дзевятнаццатага стагодзьдзя.
**2017** – стагодзьдзе з пачатку рэвалюцыйнай дзейнасьці Міколкі Паравоза.
**2021** – разьяднаньне Заходняй і Ўсходняй Беларусі.
**2025** – Ісусу Хрысту споўнілася б 2025 гадоў.
**2033** – стагодзьдзе забароне мяккага знаку.
**2039** – сто гадоў аб'яднаньню Заходняй і Ўсходняй Беларусі.
**2045** – другая гадавіна перапахаваньня праху Пазьняка на Радзіме.
**2054** – Аляксандру Рыгоравічу Лукашэнка – 100 гадоў.
**2063** – двухсоты юбілей пачатаку ўлёткадрукаваньня ў Беларусі.
**2068** – стагодзьдзе з пачатку сэксуальнай рэвалюцыі.
**2069** – стагодзьдзе з пачатку канца сэксуальнай рэвалюцыі.
**2085** – стагодзьдзе з пачатку самагонаварэньня з цукерак у Беларусі.
**2086** – пяцісотая гадавіна ваенна-рачнога флоту Беларусі.
**2089** – стагодзьдзе СНІДу на Беларусі. Адкрыцьцё мэмарыяльнага комплексу «Сьветлагорск».
**2092** – стагодзьдзе заканчэньня партызанкі ў Беларусі
**2096** – 4000-ая гадавіна прыняцьця паганства ў Беларусі.
**2098** – стагодзьдзе газэце *Навінкі.*
**2099** – стагодзьдзе з году зьнікненьня Ганчара.
**2100** – стагодзьдзе з дня вырабу першага тысячагадовага календару.

Шаноўны чытач! Пры жаданьні гэты каляндар годны ня толькі на XXI стагодзьдзе, але і на ўсё надыходзячае тысячагодзьдзе. Ды што там пульку гнаць, выкарыстоўвайце яго аж да сканчэньня вякоў!